Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 12 (25). Вільня. Субота, 13-га лютага 1926 г. Год II.

## Новыя ідэі у старой Англіі.

Англія — тая кансэрватыўная Англія, у якой, здавалася, устаноўленыя за апошнія сто гадоў сацыяльныя адносіны закамянелі на неабмяжованы час,—гэтая самая Англія пачынае выяўляць імкненьне да вельмі паважных сацыяльных рэформ. І рэформы гэтыя ў першы чарод нарушаюць „сьвятое“ права прыватнае ўласнасьці валадаючых клясаў.

У папярэднім нумары мы падалі кароценькую заметку, што ў партыі лібэралаў Лейд Джордж правёў думку аб патрэбе нацыяналізацыі вялізарных зямельных абшараў англійскіх магнатаў – так-званых лэндлордаў. І думку гэтую, як бачым, хоча правясьці ў жыцьцё чалавек, які ў часе сусьветнае вайны быў кіраўніком усяго палітычнага жыцьця Англіі....

Адначасна з гэтым пэпэесаўскі „Robotnik“ з вялікім абурэньнем апавядае, што сярод англійскае работніцкае Партыі Працы вытварылася левае крыло пад назовам Незалежнае Партыі Працы, якое імкнецца скрануць работніцкі рух у Англіі з мёртвага пункту, на якім застыг, дзякуючы вузкасьці паглядаў і страху перад рэвалюцыйным шляхам англійскіх калегаў „нашых“ пэпэесаў. Гэты новы цэнтр гуртаваньня работнікаў Англіі рашуча адкінуў старую думку, быццам дзяржава мусіць падкармліваць з народных грошы паноў прамыслоўцаў, каб тыя вялі свае прадпрыемствы і гэтак давалі заробак работнікам. Новая партыя зусім справядліва кажа, што – замест такога напіханьня кішанёў прамыслоўцаў народнымі грашмі — трэба йсьці па шляху нацыяналізацыі іх прадпрыемстваў, значыць — пераняць іх у рукі народу. Незалежная Партыя Працы гаворыць аб сацыялізьме, якога ня ўнукі нашы маюць прыждаць праз сто гадоў, а мы самі прыжджэм, збудуем сваімі рукамі. Лёзунгам гэтага левага работніцкага крыла зьяўляецца *„сацыялізм на сягоньняшні дзень“*, а першым яго дамаганьнем на сягоньня—устанаўленьне *мінімума заработнае платы*, не дапускаючы адначасна павялічэньня цэн тавараў і перакладаньня фабрыкантамі прыбаўкі работнікам на спажыўцоў.

Гэта знача: павінна быць устаноўлена законам, што кожын працаўнік за сваю работу мусіць даставаць ня менш таго, што патрэбна яму *дзеля людзкага жыцьця*. Гэта значыць: работніцкія масы, якія аддаюць усе свае сілы капіталістам і за гэта маюць паўгалоднае істнаваньне і передчасную сьмерць ад вынішчэньня арганізму, мусяць мець варункі жыцьця, забясьпечываючыя іх ад выраджэньня і передчаснае пагібелі.

У такім заваяваньні людзкіх варункаў жыцьця, якія сяньня даступны толькі буржуазным клясам, новая англійская работніцкая партыя і бачыць першы крок да сацыялізму на сягоньня. Калі гэты кліч будзе зьдзейсьнены, калі ў прамысловасьці Англіі на першым мейсцы будзе пастаўлена забясьпечаньне мінімума платы работнікам, а не — як гэта ёсьць цяпер—максімума заробку прамыслоўцам, дык тады лёгка пойдзе і правядзеньне ў жыцьцё ўсіх другіх ідэалаў сацыялізму.

Становішча левага крыла англійскага пралетарыяту страшэньне абурае польскіх „сацыялістаў“, якія ўсё яшчэ вераць, быццам дзеля зьдзейсьненьня сацыялістычнага ідэалу патрэбна сталетняя мука працоўных і помач буржуазіі ў напіханьні яе кішанёў—аж да перасычэньня. Паноў пэпэесаў прост пужае магчымасьць наступленьня новае эры перш, чым павадыры Партыі Польскіх Сацыялістаў— шляхоцкія сынкі, прапітаныя наскрозь ідэалёгіяй сваіх бацькоў і дзядоў-прыгоншчыкаў, — дасьпеюць да зразуменьня, што жыцьцё йдзе міма іх, што працоўныя мест і вёсак, фабрычныя работнікі і сярмяжнікі-хлебаробы, хочуць, як і англійскія іх таварышы, *мець сацыялізм на сягоньня*.

Але там, дзе народ сацыяльна дасьпеў і ня хоча быць рабом „радзімае“ буржуазіі, воля яго няўхільна будзе кіравацца ў напрамку, рэзка процілежным таму, чаго вуча нас польскі шляхоцкі сацыялізм. І лёзунгі *„сацыялізму на сягоньня“ і нацыяналізацыі зямлі*, якія захапілі ўжо старую консэрватыўную Англію, з кожным днём будуць ўсё з большай сілай захопліваць краіны Эўропы, дзе сяньня працоўныя зьяўляюцца рабамі капіталу, дзе на роднай зямлі сялянства пазбаўлена зямлі.

## Пэпээсы—абрусіцелі.

Ужо ня раз мы пісалі аб тым, што паны пэпээсаўцы (партыя казённых сацыялістаў), каб адарваць Палесьсе ад агульна-беларускага руху, стараюцца абмасковіць тамтэйшае насяленьне, спадзяючыся, што яно, утраціўшы свае роднае—беларускае, лягчэй пасьля прыме польскасьць.

Цяпер да нас дайшоў яшчэ адзін факт: **пасол Воліцкі з Польскай Партыі Сацыялістычнай у в. Кажан-Гарадок, Лунінецкага пав., адчыніў прыватную расейскую школу**, і навет вучыцельку пэпээсы ўтрымоўваюць на свой кошт. А пэўна-ж гэта не адзіны факт!..

Кожны беларус павінен чытаць, распаўсюждываць і заахвочваць другіх да выпісваньня свае газэты „Беларуская Ніва“, якая няўхільна бароніць нацыянальныя і сацыяльныя справы беларусаў, і вядзе да зьдзейсьненьня нашых нацыянальных ідэалаў.

## Ці патрэбна Польшчы праўда?

(Да падарожы пасольскае дэлегацыі на Усход).

На нашых вачох валіцца і рассыпаецца ўся тая „кітайская сьцяна“, якую збудавалі нашы „ахоўцы эўрапэйскай цывілізацыі“ між „Захадам“ і „Усходам“. І тое навучаючае для розуму параўнаньне, якога так баіцца ўлада ў Заходняй Беларусі, міма ўсіх перашкодаў з кожным днём заваёўвае сабе належныя правы. Калі праўду з „Усходу“ не дапускалі дагэтуль нашы паны да нашага сялянства праз ваенна-паліцэйскі кардон, дык, ня вытрымаўшы больш без яе, паехалі за ёй на „Усход“ самі „нятыкальныя“ прадстаўнікі сялянства ў Польшчы. З таго, што чулі і бачылі на „Усходзе“ навет такія ўчасьнікі падарожы ў СССР, як пас. Брыль, былы „слуп“ партыі „Пяста“, відаць усю тую сыстэматычную брахню, якой частавала дагэтуль польскую „апінію“ — польская прэса. І вось, дзіўная рэч: замест таго, каб скарыстаць з гэтай праўды, дый навучыцца ў „Усходу“ таго будаўнічага розуму, без якога руйнуецца катастрофічна „Польскі Захад“, — польскае грамадзянства з страшэнным абурэньнем накінулася на ўчасьнікаў падарожы за тое, што адкрыта кажуць аб усім тым добрым і разумным, што яны бачылі ў СССР.

Мы ня будзем пераглядаць усіх праяваў гэтага абурэньня прагрэсыўна спараліжаванай польскай буржуазіі ў польскай прэсе. Прывядзем толькі найбольш характэрны для хворага польскага мозгу прыклад „разумаваньня“ гэтага „органу“ на нашым віленскім груньце. Вось, што сказаў на ўрачыстасьці ў чэсьць „айца польскага дэмакратызму“ і вучыцеля польскай дзяржаўна-палітычнай думкі, Сташыца, сам найвышэйшы прадстаўнік „польскай навуковай мысьлі“, кіраўнік „прамянеючай на ўвесь край“ пляцоўкі польскай культуры, — сам Яго Магніфіцэнцыя п. Рэктар Віленскага Унівэрсытэту Зьдзеховскі.

У надрукаванай пасьля ў „Słowie“ яго прамове высокі аратар сцьвярджае з належнай яму сілай слова ўсё тое, што мы заўсёды пішам аб Польшчы. „Польшча, казаў праф. Зьдзехоўскі, „ледзь вярнуўшы сабе ўтрачаную было незалежнасьць, стаіць ізноў перад катастрофай, у якую сьпіхаюць яе — подласьць адных, дурнота другіх, няздарнасьць усіх“.

Праф. Зьдзеховскі ў поўнай згодзе з найвышэйшым прадстаўніком польскай навукі ў Кракаве Розвадовскім, старшынёй Кракаўскай Акадэміі Навук, сцьвярджае, што ўсё, што робіцца ў Польшчы ў галіне дзяржаўна-гаспадарча-духоўнага будаўніцтва, — „подла, глупа і няздарна“.

Дзеля таго, каб зразумець гэту праўду, якая пачала ўжо біць навет польскую навуку—у асобах паноў прафэсароў і іх... пэнсіяў! — у прадстаўніка гэтай навукі хапае і розуму, і „адвагі новай мысьлі“, і моцных слоў.

Але што-ж той самы „бясстрашна-вольны, ня схіляючы галавы перад дэмагогіяй мысьліцель“ Зьдзеховскі піша аб другой праўдзе — тэй, за якой паехалі паслы польскага Сойму на „Усход“? Ці лічыць ён, што для тых, хто працуець у Польшчы „подла, глупа дый няздарна“,—трэба ведаць, ці і што робіцца разумнага, шляхотнага дый удатнага ў вялікага суседа Польшчы, які расьце і ўсьцяж узмацоўваецца — раўналежна з заняпадам Польшчы?..

На гэтае пытаньне мы адкажам моцнымі, як заўсёды, славамі самога найвышэйшага прадстаўніка польскай „навуковай мысьлі“ і польскай лёгікі ў нашым краі...

Праф. Зьдзеховскі трэбуе нябольш-няменш, каб усіх паслоў, якія езьдзілі ў СССР знаёміцца з тым, што там робіцца, — каб гэтых паслоў-падарожнікаў за так патрэбнай для Польшчы праўдай і навукай дзяржаўна-гаспадарчага будаўніцтва — **аддаць пад суд**... Дый можа яшчэ і пад даразны! Вось, які неспадзяваны вывад робіць „польская лёгіка“ пана рэктара з яго-ж уласных слушных прызнаньняў....

Што ж такое страшнае і небясьпечнае для сучаснае буржуазнае Польшчы маглі ўбачыць і прывезьці з Усходу соймавыя паслы? Няхай на гэта адкажа адзін з іх — сябра Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады пасол Мятла, якому і даем ніжэй голас.

## Крывавая расправа з безработнымі у Калішу.

У месьце Калішу вялікая таўпа безработных падайшла да Магістрату, дамагаючыся павялічэньня дапамогі. Калі магістрат адмовіў, дык безработныя з адчаю кінуліся ў сярэдзіну гмаху, але адтуль былі выкінуты паліцыяй. Праз нейкі час безработныя сабраліся ізноў—ужо ў значна большай лічбе, і на гэты раз уварваліся ў гмах Магістрату і зруйнавалі ўсе канцэлярыі ўправы места. Тады на помач паліцыі было выклікана войска, і пачалася запраўдная бітва... У выніку бою 30 работнікаў ранены; ранены такжа камісар і пшодоўнік паліцыі, 3 жаўнеры і прэзыдэнт места.

Назаўтрае раніцай, як падае карэспандэнт „Słowa“, ня гледзячы на забарону з боку адміністрацыі, адбылася вялізарная дэманстрацыя безработных. Апошнія ўсей грамадой прайшлі па вуліцах паходам на веча ў закрытым памяшчэньні, дзе выступіў з прамовай пасол Галавач (беларус — з Незал. Хлопскай Партыі). Тады ў салю ўвайшоў сільны атрад паліцыі і пачаў разганяць веча. Паліцыя страляла ў апорных работнікаў, ранючы 5 асоб. Пасла Галавача крэпка пабілі. З прычыны таго, што паліцыя ўсё-ж такі не магла даць рады з безработнымі, было ізноў паклікана войска, якое справу „зьліквідавала“.

Магістрат увесь дзень быў нячынны. Большая частка крамаў зачынена.

Калі ў Сойме даведаліся аб страшэнных выпадках у Калішу, пасол Бальлін зараз-ж патрэбаваў, каб парадак дня быў зьменены, і Сойм зараз-жа заняўся бы абгаворам калішскай расправы з работнікамі... Але на тое-ж і „коаліцыя“ ў Сойме—з пэпээсамі ў хвасьце,—і... большасьцю галасоў, каб прапазіцыя Бальліна была адкінута...

дзяржаўны кантроль. Першым крокам гэтай рэвізіі было—адстаўленьне ад службы дырэктара зямельнага аддзелу гэтага Банку і яго памоцніка. Пакуль што афіцыяльна паведамляецца, што ў дзеяльнасьці абодвух паноў дырэктароў былі—„недакладнасьці“.

Ведама-ж, будуць бараніць „сваякоў“, як баранілі паноў Ліндаў,—да апошняй магчымасьці!..

### Разварушанае гняздо зладзеяў.

У Дзяржаўнай Касе Ашчаднасьці, у якой панаваў былы эндэцкі міністар фінансаў у габінэце Вітаса п. Ліндэ, пасьля арышту галоўнага зладзея самога Прэзэса Ліндэ, пракуратура пачала разварушываць глыбей гэтае гнездо зладзеяў і — пачаліся далейшыя арышты аднаго за адным калегаў дый памоцнікаў гэтага „гэршта“ бандыцкай шайкі. Ці вылавіць пракуратура прынамся хаця палову „высокіх зладзеяў“, вельмі сумліўна. Людзі ўсё—свае, дый—„паважныя“.

### „Чыстка“ пасьля ген. Сікорскага

Толькі што ваеннае міністэрства запярэчыла весткам прэсы аб надужыцьцях пры прадажы заграніцу нейкіх 7.000 каней з польскай арміі. Але-ж вось, само міністэрства паведамляе, што ў зьвязку з гэтай справай, аб якой не падае ніякіх дэталяў, звольнены са службы адзін з найвышэйшых шэфаў міністэрства ген. Паевскі.

### Міністар Ст. Грабскі і школьныя кур‘еры.

У сувязі з загадам міністра Грабскага — зьменшыць у мэтах эканоміі лічбу кур‘ераў (старажоў) у школах, Прафэсыянальны Саюз гэтых кур‘ераў паслаў да міністра дэлегацыю. Дэлегацыя мела растлумачыць міністру, што кур‘еры і без таго ня маюць ані часу, ані сілаў выпаўніць узложаную на іх работу, працуючы па 18 гадзін у дзень. Але міністар палічыў ніжэй сваей годнасьці асабіста прыняць нейкіх мужыкоў-старажоў і выслаў некага сказаць дэлегацыі, каб пакінула пісаную заяву дый ішла сабе, скуль прыйшла...

Запраўды ж: „дэмакратычная рэспубліка“...

### Міністар Морачэвскі разьбірае праваслаўны сабор у Варшаве.

Міністар Публічных Работ п. Морачэвскі пэпэсавец падпісаў з варшаўскім магістратам умову, паводле якой ягонае міністэрства бярэ на сябе разборку сабору на Саскім пляцы ў Варшаве. Гэткім чынам — тое, што пачалі польскія езуіты і шовіністы, будуць прадаўжаць—да пабеднага канца!—польскія сацыялісты..

### Абмен вязьнямі між Польшчай і ССРР.

9 лютага ў Коласаве адбыўся абмен палітычнымі вязьнямі між Польшчай і ССРР.—ССРР выдаў Польшчы кс. Усаса, Дмовскага, Лушкевіча і Камыга. Польшча выдала ССРР Яворскую, Я. і Ю. Брун і Маеўскага. Апрача кс. Усаса, усе радавыя вязьні былі засуджаны на сьмерць.

### Яшчэ адзін „бежанец“ з Вызваленьня.

З „Вызваленьня“ вызваліўся яшчэ адзін сябра — пас. Татарчак, які ўвайшоў у „Сялянскую Партыю“ (групу Домбскага).

## Заграніцай.

### Нямеччына ўваходзе ў Лігу Народаў.

10-га лютага нямецкі генаральны консул у Жэневе падаў генаральнаму сэкратару Лігі ноту нямецкага міністра замежных спраў у справе ўваходу Нямеччыны ў склад Лігі Народаў.

### Дэманстрацыі ў Італіі проці Нямеччыны.

Па ўсіх вялікіх местах Італіі адбыліся грозныя дэманстрацыі фашыстаў проці Нямечыны. У нямецкім пасольстве ў Рыме выбілі вокны. Студэнты-фашысты шукаюць па гасьціньніцам немцаў і б‘юць іх. Немцы-падарожнікі ўцякаюць з Італіі.

Арганізаваўшы ўсе гэтыя бойкі, партыя фашыстаў афіцыяльна „забараніла“ сваім сябром прымаць учасьце ў гэтых дэманстрацыях.

### Лёйд-Джордж за „аб‘яднаньне“ з работнікамі.

У вялікай прамове ў парляманьце Лёйд-Джордж заявіў, што на пэўных варунках кампрамісу лібэралы (прынамся яго „лявіца“) маглі-б пайсьці на аб‘яднаньне з Партыяй Працы. Лібэралы рашуча адкідаюць толькі нацыяналізацыю прамысловасьці і работніцкі кантроль на фабрыках. За тое—нічога ня маюць проці значнага павялічэньня і пашырэньня ўмяшацельства дзяржавы ў гаспадарчую палітыку наагул.

Цікава, што той самы Лёйд-Джордж, які пратэстуе проці думкі аб нацыяналізацыі (перадачы на ўласнасьць народу) прыватнай прамысловасьці, толькі-што падаў прэект нацыяналізацыі ўсей зямлі ў краі, апрача местаў. Вось-жа справа ў тым, што лібэралы—гэта пераважна прамыслоўцы і гандляры, а кансэрватары—пераважна зямляўласьнікі. Дык лібэралы нічога ня маюць проці таго, каб гаспадарча і палітычна аслабіць кансэрватараў, пазбавіўшы іх маёнткаў. Але сваіх фабрыкаў і заводаў аддаваць народу ня хочуць.

У кожным выпадку думка аб далучэньні лібэральнай партыі да Партыі Працы паказуе слабасьць самастойнай сілы лібэралаў і—усё ўзрастаючую моц Работніцкай Партыі.

### Новыя рэвэляцыі ў справе вэнгерскіх фальшываманэтчыкаў.

Агенты французкай паліцыі раскрылі шмат з таго, што вэнгерская паліцыя, па загаду ўраду, манілася ўкрыць. Знайшлі перад усім у Картаграфічным Аддзеле ваеннага міністэрства другую добра схаваную машыну, на якой друкаваліся (відаць, і меліся друкавацца надалей!) фальшывыя банкноты. Але найцікаўней, што папера для банкнотаў была зусім добрая, запраўдная, бо яе гр. Віндішгрэц купіў яшчэ 3 гады назад у... Француском Банку, падкупіўшы за 9 мільярдаў карон урадоўцаў гэтага Банку!..

Але яшчэ пікантней, што ў выніку раскрыўшайся залішне шырока вэнгерскай панамы, кампрамітуючай перад усім буржуазную гаспадарку ў сьвеце, моцна спалохалася—мацней, як сама Францыя!—Англія. Англійскі ўрад, як пішуць, націскае цяпер на Францыю, каб не размазываць зашмат усей справы, але, чым хутчэй зьліквідаваць, яе. Ці ня маюць паны Чэмбэрлены і самі крыху—„морды ў муцэ“, як кажуць пра інтэндантаў?

### Замах на дыктатара Грэцыі.

Афінская паліцыя выкрыла—ведама ж — „камуністычную“ змову дзеля выкананьня замаху на дыктатара Грэцыі ген. Пангалёса. У сувязі з замахам арыштавана шмат людзей.

### Узнаўленьне баёў у Сірыі.

У той час, калі францускія крыніцы паведамляюць, што ў Сірыі „ўсё спакойна“ і ўсе плямёны, захопліваючыся францускім патрыятызмам, прызнаюць уладу францускіх жываедаў, — з англійскіх крыніцаў даведываемся аб тым, што ў паўночнай Сірыі ізноў паўстанцы распачалі баі.

## Куток наймалодшых.

### Моладзь.

Віхрыся, моладзь, мчыся ў даль,
Пакінь стагнаць, пакінь свой жаль.
Душой гары,
Наперад пры

Шукаць жыцьця, шукаць дабра,
І зло зьнішчаць усё з карня.
Душой гары
Наперад пры!

Пагляд хай іскрамі шугае—
Другіх пажарам ахапляе
Раз, тры
І ўсё гары!

Усё палай, трашчы старое,
Усё аджыўшае, гнілое
Трэсь, бразь—
Далоў у гразь!

Усё згарыць, усё старое,
Адно жыць будзе маладое.

8./I. 1926 г. **Лявон Чачотка.**

## ХРОНІКА.

**Хто і як можа выехаць у Саюз Сацыялістычных Радавых Рэспублік.** З тае прычыны, што вельмі часта зьвяртаюцца ў рэдакцыю „Беларускае Нівы“ інтэрэсанты з запытаньнем, як можна выехаць у С. С. Р. Р., даем тут адразу ўсім агульнае выясьненьне аб гэтым.

Польская Эміграцыйная Управа ў паразуменьні з Міністэрствам Унутраных Спраў выясьніла, што просьбы аб выезьдзе ў С. С. Р. Р. будуць разглядацца прыхільна толькі ў вынятковых выпадках, сцьвярджаючых фактычную нястачу працы, або магчымасьці працыцця ў межах Польшчы і магчымасьць мець працу ці ўтрыманьне ў С. С. Р. Р., куды гэтыя асобы хочуць выехаць.

Пасьведчаньне аб немагчымасьці пражыцьця і адсутнасьці працы ў Польшчы трэба дастаць у гміне ці ў паліцыі, або, калі асоба зарэгістравана ў Дзяржаўнай Управе Пасрэдніцтва Працы, як безработны, то ў Пасрэдніцтве Працы.

З С. С. Р. Р. трэба мець пасьведчаньне, што даная асоба будзе там мець працу, і пры тым паказаць, якую працу і за якую плату,—або забавязаньне, што блізкія родныя, якія жывуць у С. С. Р. Р., дадуць гэтай асобе бясплатна памешканьне і ўтрыманьне. Пасьведчаньні гэтыя мусяць быць пасьведчанны мясцоваю радаваю ўладаю і пацьверджаны польскім консулам у С. С. Р. Р.

Просьбы з вышэй паказанымі дакумэнтамі мусяць быць скіраваны да Дзяржаўнае Управы Пасрэдніцтва Працы і пасьля рэзалюцыі апошняе перададзены адміністрацыйнай уладзе (Староства, Камісарыят Ураду і г. п.).

Гэтак можна атрымаць заграничны пашпарт; а каб атрымаць яшчэ заграничную візу (дазвол ССРР на ўезд туды), трэба яшчэ зьвярнуцца да радавага консула ў Варшаве.

**Танна прадалі беларускае дабро.** Відаць, запраўды папросту задарма аддадзена „ў арэнду“ (на зьніштажэньне...) англійскай кампаніі капіталістаў наша Белавежская Пушча, калі тыя, як паведамляе „Діло“, выразілі сваё вялікае здаваленьне кантрактам... Сьпяшаюцца „прыраджоныя“, пакуль яшчэ маюць час...

**„Суд над Абдзіраловічам“.** Вучні Віленскае Беларускае Гімназіі з VII і VIII клясаў ладзяць у аўторак, 16 лютага, такзваны „літэратурны суд“ над героем повесьці М. Гарэцкага „Дзьве душы“, Абдзіраловічам.

Можам толькі шчыра прывітаць гэтае выяўленьне зацікаўленасьці нашае моладзі роднай літэратурай. Такія літэратурныя суды дапамагаюць учасьнікам іх разьвіваць самастойную мысьль і крытычна аднасіцца да літэратурных і грамадзкіх пытаньняў.

Спадзяемся, што ініцыятыва віленскае моладзі разварушыць і нашыя гімназіі на правінцыі.

**Забастоўка друкароў у Вільні скончылася.** Пасьля трохднёвай забастоўкі прыступілі да працы, атрымаўшы 10 проц. падвыжкі, замест 25 процантаў.

**Забойства хлопца на граніцы.** На польска-радавай граніцы недалёка ад мяст. Камайска польскія вартаўнікі застрэлілі хлопца Сымона Чарвінскага, з в. Углы (на радавым баку), які йшоў да свайго дзядзькі ў Камайску і ня спыніўся на крык польскае варты.

**Замена паліцыі — Корпусам Пагранічнікаў.** „Dzien. Wil.“ паведамляе, што, „ня гледзячы на ашчаднасьць“, усё ж хапіла грошаў на тое, каб

---

Тут-жа ў Крэмлю пабывалі ў саборы, гдзе хавалі цароў. Усе рэчы царкоўныя і грабніцы знаходзяцца на сваіх мяйсцох і захаваны, як гістарычная памятка. Спэцыяльная камісія з вучоных аднаўляе сьцены ўнутры сабору, а ў царкве „Васілія Блажэннага“ дык і звонку.

Пасьля гэтага езьдзілі на выстаўку так-званага „Алмазнага фонда“ Гохрана. Выстаўлены дыадэмы, кароны, галоўные ўборы царыц і др. драгацэннасьці, у тым ліку знаменіты брыльянт Арлова. Каб мець прадстаўленьне аб багацьці ўсяго гэтага, скажу, што камісія знаўцаў ацаніла ўсё у 500 міліёнаў залатых рублёў.

Па абедзе былі прыняты праз пана Кентжынскага, польскага пасла ў Маскве.

### Сельская гаспадарка.

11 студня па рэвізыце Кентжынскага былі прыняты заст. камісара земляробства Сьвідэрскім, які пазнаёміў нас з дасягненьнямі ў сельска-гаспадарчай галіне савецкае гаспадаркі.

Агульная прадукцыя раўняецца 92% даваеннага часу. Прадукцыя зярна да вайны давала 4.186 міл. пудоў, у 1921 г.—2.000 міл., а ў 1925 годзе — 3.975 міл. пуд. Агульны (валавы) даход у 1911—1915 годзе—9.500 міл. рублёў, у 1924 г.—7.300 м. р., у 1925—26 г.—8.950 міл. руб.

Лічба скаціны ў 1924 г. раўнялася 70% даваенна часу, а ў 1925—74%.

На запытаньне: якая палітыка праводзіцца ў справе зьніжэньня ці павышэньня цэн на прадукты прамысловасьці і зямляробства?—заст. камісара адказаў: што стараюцца зьніжыць цэны на прамысловыя тавары, якія за 2 апошнія гады ўжо і **зьменшыліся на 40 проц.** Так-зв. „ножніцы“ ўжо блізка зусім зышліся.

Стан гаспадаркі і агульная прадукцыя з кожным годам папраўляецца, так што ў недалёкай будучыне спадзяюцца ня толькі дагнаць даваенны час, а навет і перагнаць!

Адчуваецца ў некаторых раёнах перанасяленьне; дзеля гэтага праектуецца да 150.000 сем‘яў з усяго Саюзу перасяліць у Сібір і Алтай.

Што датычыцца ўстройства гаспадарак, то від іх мае права выбіраць кожны гаспадар; г. зн. хоча хто выйсьці на хутар, ці ўстраіваць арцельную, ці пасёлачную гаспадарку, то гэта яму ніхто ня мае права забараніць.

### Сацыяльная апека.

Былі з візытай у Каменевай, як старшыні т-ва культурнай сувязі з заграніцай, якая нас прынімала. Адтуль у **Інстытут аховы мацярынства і дзяцей**. Вялізарная ўстанова! Дзеці рознага веку. Есьць навет і такія, што перадчасна радзіліся. Усюды відаць парадак і чыстата. Тут жа асобныя прэпараты, пры помачы якіх прыгатаўляецца малако для грудных дзяцей з патрэбнай тэмпэратурай.

Для прыежджых сялян устроены т.-з. **„Дом Крестьянина“**. Селянін за 30 к. у дзень можа знайсьці сабе кватэру і цэлы рад практычных дапамог і прыемнасьцяў, калі-ж ён мае пасьведчаньне аб беднасьці, то і саўсім нічога ня плаціць. Пры доме арганізованы юрыдычны, агранамічны і культурна-асьветны аддзелы, і кожны селянін мае права карыстацца дапамогай юрыстаў і агрономаў, якія там стала дзяжураць. Скончыўшы свае справы ў горадзе, селянін можа правясьці час так, што атрымае карысьць і прыемнасьць. У адным пакою за сталом бачыш гуляючых у шашкі і шахматы; у другім слухаюць радыо, або ігру на раялі; у трэцьцім-чытаюць газэты і кніжкі. Тут-жа вісіць насьценная газэта і выразкі з журналаў аб навінах у гаспадарцы. Есьць кіно, гдзе паказуюць карціны, або чытаюць лекцыі аб гаспадарцы.

Пакоі апалены, маюць па 6—8 ложкаў, з матрацамі і чыстай бялізнай. Мяккія дываны і крэслы, пакрытыя белымі чахламі. Пад нагамі — маленькія дыванікі. Там-жа ёсьць свой рэстаран, гдзе абед каштуець 40 к. У суседнім пакою знаходзіцца гаспадарчы музэй. **Пасол П. Мятла.**

(Далей будзе).

